№ 8-9 [35-36] Жнівень - Верасень 1950 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

З ведай, верай, надзеяй і любоўю да лепшае будучыні.

Часапіс Беларускае рэлігійнае думкі.

«SUR LA VOIE DIVINE».
Mensuel religieux biélorussien.

Цана нумару 40 фр.

Адрэс рэдакцыі:
Adresse : Redaction, 51, rue des S-ts Pères, Paris (6).
Chèque Postal : Paris c. 628744.

Падпісная цана на год 350 фр.

# Неспакойны час

Міжнароднае палажэньне з дня на дзень стае штораз больш неспакойным і гэты неспакой эміграцыя адчувае больш чым хто іншы, бо калі дзяржаўныя народы хоць якіх два-тры гады пасьля другое сусьветнае вайны мелі магчымасьць прынамся адсапціся, дык для эміграцыі з-паза зялезнае заслоны ня было ні тыдня супакою. Нэрвы ўвесь час былі ў напружаньні і напагатове, каб змагацца за сваё існаваньне, каб ня трапіць на «родзіну», каб знайсьці працу для здабыцьця штодзеннага куска хлеба і каб знайсьці краіну, якая-б хоць на нейкі час дала ім магчымасьць жыць палюдзку. — Такое палажэньне вельмі выснажае чалавека і духова і фізычна; дык нічога дзіўнага, што ў эміграцыйным асяродзьдзі жаданьне супакою адчуваецца больш, чым дзе. Але міжнародныя падзеі кажуць, што цяпер не да супачынку. Розныя кангрэсы выдаюць крыклівыя заклікі пра мір, а газэты і часапісы штораз часьцей і часьцей пішуць пра вайну. Жаданьне адзінак і мільёнаў людзей не бярэцца пад увагу. Падзеі йдуць упярод імклівым крокам да нейкае разьвязкі.

Якое можа быць цяпер наша становішча, становішча беларускае эміграцыі да сучасных і насьпяваючых падзеяў?

Папершае, трэба адважна глянуць праўдзе ў вочы. Мы мусім з усёю шчырасьцю сьцьвердзіць, што ў сучасным палажэньні дыпляматы найбольш рахуюцца з фізычнаю сілаю і паводля гэтае сілы мераюць вартасьць і сваіх саюзьнікаў, і сваіх ворагаў. Мы як эміграцыя не на толькі шматлікія, каб стварыць паважную фізычную сілу, але было-б зусім нядобра расьцярушваць дарэшты свае сілы. Але акрамя фізычнае сілы ёсьць яшчэ духовая сіла, якую да гэтага часу ў шматлікіх выпадках недацэньвалі; ды вось карэйскія падзеі даюць лекцыю ўсяму сьвету, што цяпер, як і заўсёды трэба паважна рахавацца з духоваю сілаю. А гэтую сілу мы можам і мусім мець незалежна ад колькасьці. Дзеля гэтага неабходна адкінуць усё тое, што нішчыць духовую сілу, што разьбівае яе: адкінуць: абыякавасьць, празьмерны эгаізм, несправядлівыя ўзаемаадносіны і тым падобныя заганы.

Сучасны неспакой у сьвеце выкліканы нячуванымі крыўдамі, якія дзеюцца ў паняволеных краінах і якія таемнаю рукою плянуюцца для ўсіх іншых краінаў, якія праектуюцца быць паняволенымі. У гэтым палажэньні для абыякавасьці няма мейсца; шукаць зацішны куток бескарысна, бо ўсюды адчуваюцца мацкі гэнае таёмнае рукі. Нашым абавязкам ёсьць: усьведаміць сабе добра сучаснае палажэньне, усьведаміць сэнс і важнасьць цяперашняга часу і адпаведна да выснаўкаў упарадкаваць сваё дзеяньне.

Таму, што ў корані усіх суседзкіх і міжнародных закалотаў ляжыць несправядлівасьць дык нашым заданьнем ёсьць перш у нашых прыватных дачыненьнях, а далей ў кругу нашага дзеяньня быць справядлівымі, пашыраць праўдзівыя весткі і выкрываць хлусьню. Вымагаць толькі справядлівасьці ад іншых у адносінах да нас і да нашага народу, а самым мала дбаць пра справядлівасьць ёсьць нячэсна і грэшна.

Спадзявацца на тое, што ваенны закалот бяз нас можа разьвязаць беларускае пытаньне, нельга; ды такіх наўных між эміграцыяю бадайшто ня-

ма, бо кожнаму добра ведама, што бяз нас ніхто нам ня дасьць лепшае долі. «На Бога спадзявайся і сам, нябожа, спарамляйся».

Спадзяванца на тое, што мір і справядлівасьць можа ўстанавіцца сілаю і аружжам ёсьць самаабманам. Ужо ня раз аб гэтым гаварылі дзяржаўныя мужы і некалькі раз напамінаў Сьвяцейшы Айцец Пій XII, зьвяртаючыся да ўсяго сьвету з гарачым словам, што міру не ўстановіць ніякае аружжа: ні штыкі, ні атамная бомба, бо **мір ёсьць творам справядлівасьці.** Пакуль у міжнародных адносінах ня будзе справядлівасьці, пакуль будзе панаваць сіла над правам, пакуль дужэйшыя будуць бяскарна зьдзекавацца над слабейшымі — датуль ніякія дагаворы і пастановы і ніякае аружжа ня ўтрымае міру. Чалавек у глыбіні душы ніколі не пагодзіцца з крыўдаю і заўсёды будзе з ёю змагацца.

У радох беларускае эміграцыі ёсьць нямала шчырых і ахвярных патрыётаў, якія гатовы на найбольшыя ахвяры для вызваленьня і лепшае будучыні сваё бацькаўшчыны. Ня выключана, што да гэткіх чынаў хутка можа здарыцца магчымасьць і нават патрэба, аднак і тут неабходна сабе ўсьвядаміць, што змаганьне, гэта далёка ня ўсё тое, чаго вымыгае ад нас дабро бацькаўшчыны. Выдатны чэскі грамадзкі дзеяч Т. Масарык (1850-1937) калісьці казаў: «Лягчэй аддаць сваё жыцьцё на фронце ў баю за бацькаўшчыну, чым выконваць дробную будзённую працу і дробныя ахвяры для роднага краю ў штодзенным жыцьці. Тую штодзенную працу і ахвяры, якія ня прынюсяць ні почасьцяў, ні славы, ні нават грошаў...» Якраз гэткіх працаўнікоў нам трэба якнайбольш і да гэткае працы ня трэба шукаць асаблівае нагоды і ня трэба чакаць асаблівых умоваў; яе можна выконваць усюды і заўсёды.

У радох беларускае эміграцыі яшчэ знайходзяцца адзінкі, якія трымаюцца пагляду, які даўно аджыў свой век, быццам у грамадзкіх справах можна недацэньваць духовага і рэлігійнага дзейніка. Можна дзякаваць Богу, што прыхільнікаў гэтага пагляду штораз меншае, аднак і тыя лічаныя адзінкі павінны абразуміцца, каб не абцяжваць і так цяжкае нашае палажэньне. Сучасныя і надыходзячыя падзеі вымагаюць ад беларускага народу сапраўды ахвярных і вялікіх людзей на кожным становішчы. Толькі тады народ можа зажыць спакойным жыцьцём, калі будзе сьведамы, што на адказных становішчах, і на вялікіх, і на маленькіх, стаяць людзі чэсныя, і ахвярныя, шчыра веруючыя, і выконваюыя ў практыцы сваю веру.

Ужо раней быў артыкул у «Божым шляхам» (Нр. 3. з 1947 г.) «Думкі вялікіх людзей аб малітве». Там паданы сказы выдатных грамадзкіх дзеячоў, якія сёньня актуальныя больш чым калі, але каб не паўтараць таго, што нядаўна было напісана на старонках часапісу, можна дадаць да вышэйуспомненых сказаў думкі некаторых сучасных дзеячоў. Іхныя словы падыктаваныя ня зьменным настроем, але цьвёрдаю сапраўднасьцю.

Амэрыканскі гэнэрал Жорж Патто (1885-1945), якому належыцца немалая заслуга перамогі аліянцкае арміі над немцамі ў Тунісе ў 1943 г., казаў: «Тыя, што моляцца, робяць больш для сьвету, як тыя, што ваююць, а калі на сьвеце ёсьць штораз горш, дык прычына гэтаму ў тым, што ёсьць больш змаганьня, як малітвы». Маршал Монтгомэры ў 1947 г. зьвяртаўся да моладзі: «Я ёсьць таго пагляду, што нацыя, якая занядбала-б духова сваю моладзь, ніколі не асягне, якога небудзь трывалага выніку». Глыбокія і прыгожыя гэтыя словы, вялікая шкода, што іх мала слухаюць. Дагэтуляшныя асягненьні з апошніх войнаў і з дыпляматычнае гульні ёсьць вельмі нятрывалыя, бо былі ў адношаньні да некаторых народаў, а найбольш для беларускага, вельмі няспраўядлівыя. А ў духовых адносінах, дык і гаварыць няма аб чым.

Звычайна лёгка ўбачыць усякія нястачы і несправядлівасьць ў іншых, але ёсьць вельмі важнай рэччу, убачыць гэтыя нястачы ў сябе і паправіць іх. Гэткая праца ёсьць бадайшто найцяжэйшаю працаю ў жыцьці чалавека, відаць дзеля гэтага яна страшэнна занядбаная і ў выніку вядзе да аграмадных закалотаў у грамадзкім жыцьці, да заўсёднага нясупакою.

Беларускі народ — працавіты народ; мазалістымі рукамі ён выконваў найцяжэйшую фізычную працу і духова так-жа не адставаў ад іншых. Калі неспакойны час, які цяпер перажываем, вымагае ад чалавецтва ня толькі фізычнага, але і духовага высілку — ажыцьцяўленьня хрысьціянскае справядлівасьці ў штодзенным жыцьці, каб гэткім чынам пераможна перажыць сусьветны закалот і асягнуць трывалы і справядлівы мір — мы і адно і другое мусім зрабіць, бо ад гэтага залежыць лепшая будучыяня ўсяго народу.

**а. Леў.**

# Навука і рэлігія

**(Думкі фізыкаў аб рэлігіі).**

Шырокія кругі грамадзянства заўсёды цікавіліся адносінамі навукі да рэлігіі. Не здарма гэтыя адносіны людзі злое волі стараліся выкарыстаць для разбуральных мэтаў, перабольшваючы некаторыя беспадстаўныя гіпотэзы, якія распаўсюджваліся ў некаторых крутох вучоных ў мінулым стагодзьдзі, супраць рэлігіі. Дзеля гэтага важна падаць да агульнага ведама, што сапраўды пера-

давыя вучоныя ніколі ня былі прыхільнікамі гэтых крутоў, а ў сучасны мамэнт кожнае новае навуковае асягненьне і адкрыцьцё скіроўвае навуку штораз бліжэй да рэлігіі. У заходняй Эўропе паўстала паважная літаратура да гэтага пытаньня; у нас тымчасам зьяўляліся толькі невялікія артыкулы на гэтаю тэму.

Тэма-ж гэтая так шырокая і так цікавая, што яе ніяк немагчыма абняць у адным артыкуле нават у галоўных рысах, дзеля таго абмяжуемся тут толькі да тае галіны навукі, якая апошнім часам зрабіла найбольшы крок упярод — такою лічыцца фізыка.

Каб дакладна трымацца названае тэмы, трэба было-б гаварыць аб тым, як вучоныя глядзелі даўней і як яны глядзяць цяпер на будову матэрыі; як разьбіўшы атам, выкрылі нязьбіты доказ, што матэрыя ня вечная, але мусіла паўстаць у часе і нават азначаюць час яе паўстаньня; як прышлі да перакананьня, што матэрыяю кіруе нематэрыяльны, духовы Розум; што ад гэтага Розуму мае пачатак энэргія, фізычныя і агулам прыродныя законы; разглянуць сучасныя тэорыі сьвятла, хваляваньня і пад. Але пры такім абгаворваньні нельга абмінуць тае спэцыяльнае навуковае тэрміналёгіі, утворанае з іншамоўных слоў, якія для неабзнаёмленых з данымі галінамі навукі гэты артыкул рабілі-б мала зразумелым. Дзеля гэтага будзе больш мэтазгодным пералічыць найбольш выдатных фізыкаў, якія зьяўляюцца сапраўднымі прадстаўнікамі навукі агулам, а фізыкі ў асаблівасьці, і даведацца аб іхных адносінах да рэлігіі.

**Ньютон** Ісаак (1643-1727) англійскі гэніяльны фізык, матэматык і астраном, які адкрыў асноўныя законы ў фізыцы, ягоны твор «Прынцыпы» і да сёньня ня страціў свае вартасьці. Ён быў глыбока рэлігійным; з англіканізму перайшоў на каталіцызм. Маліўся няраз лежучы крыжам перад аўтаром. Аб Богу ён пісаў: «Велічныя шляхі, што зьвязваюць нябесныя целы адно з другім, могуць паходзіць толькі ад разумнае і магутнае Істоты. І калі другія зоры зьяўляюцца цэнтрамі сыстэмаў, дык і яны знаходзяцца пад уладаю таго-ж Загадчыка. Гэты Загадчык кіруе ўсім не як душа сусьвету, але як Валадар усяго. І за Яго кіраваньне мы называем Яго: Госпадам, Богам, Усемагутным».

**Франклін** Бэнжамін (1706-1790) вынайшоў грамазвод і інш. Калі быў выбраны прэзыдэнтам аднаго з штатаў Паўн. Амэрыкі, завёў звычай маліцца перад кожным паседжаньнем сэнату, кажучы, што «трэба перш зьвяртацца да Айца сьвету, каб прасьвяціў розум».

**Уат** Джэмс (1736-1819) уславіўся ў фізыцы вынахадам паравога сільніка. Да свайго сябры, якому памерлі блізкія родныя пісаў: «У гэтай справе я не магу вам раіць іншага суцяшэньня, як толькі тое, што мае рэлігія».

**Гальвані** Люіжі (1737-1789) італьянскі фізык, выкраў шмат электрычных законаў, ад яго мае пачатак, так зв. гальванізацыя. Быў глыбока рэлігійным і належаў да трэцяга ордэну сьв. Франціשка.

**Монгольфье** Язэп (1740-1816) францускі фізык, які вынайшаў гідраўрычны прэс, аэрастат і інш. Хоць быў непрактыкуючым, але быў веруючым.

**Вольта** Аляксандар (1745-1827) італьянскі фізык, які вынайшаў спосаб мераньня напяцьця электрычнага току; адзінка гэтае меры называецца вольтам. Вольта быў глыбока рэлігійным, аб сваёй веры пісаў: «Ня знаю, хто можа сумнявацца ў маёй рэлігійнай шчырасьці і вытрываласьці... я заўсёды і за ўсякую цану ўважаў і цяпер уважаю, што сьвятая Каталіцкая Рэлігія ёсьць адзіная праўдзівая і непамыльная і бязьмежна дзякую добраму Богу, што даў мне такую веру, у якой хачу непахісна жыць і ўмерці, і спадзяюся асягнуць жыцьцё вечнае».

**Мінкэлер** Жан (1748-1824) бэльгійскі фізык, вынаходнік газавага асьвятленьня. Аб ім аднагодна сьведчаць, што быў добрым хрысьціянінам.

**Жофруа д'Аббон** Кл. (1751-1832) францускі фізык, першы канструктар параплаваў. Сапраўдны мучанік навукі, у сваіх цярпеньнях меў адзіную пацеху ў рэлігіі.

**Томсон** Бэнжамін граф Румфорд (1753-1814) выдатны фізык, які вынайшаў тэорэтычныя асновы для галаўнейшых правоў сьвятла і цяпла. Ён пры кожнай адпаведнай нагодзе выказваў рэлігійны падзіў для Божага праву.

**Нірс** Язэп (1765-1833) францускі фізык, якому заўдзячваем фатаграфію. Паходзіў з пабожнае сям'і і ўсё жыцьцё захоўваў у вялікай чысьціні рэлігійныя звычаі.

**Юнг** Тамаш (1733-1829) вельмі выдатны і глыбокі англійскі фізык, выкрыў закон інтэрфэрэнцыі сьвятла і шмат інш. Належаў да аднае з англіканскіх сэктаў і ўсё жыцьцё быў веруючым.

**Ампэр** Андрэй (1775-1836) выдатны францускі фізык асновапаложнік электродынамікі і электромагнэтызму. Калі ў гутарцы з сваім сябрам Озанамам даходзілі да Бога, тады Ампэр часта браўся рукамі за сваё шырокае чало і ўсклікваў: «Які вялікі Бог, які вялікі Бог, а наша веда, гэта нічога».

**Оэрстэд** Ганс (1777-1851) данскі фізык, зрабіў паважны ўклад у разьвіцьцё электромагнэтызму. Быў глыбока рэлігійны і часта паўтараў: «Усякае асноўнае дасьледаваньне прыроды вядзе да пазнаньня Бога». «Мы ёсьць нічога супраць Бога, але ёсьць чымсьці з Богам».

**Швайгэр** Жан (1779-1857) вынаходнік электрычнага мультыплікатара. Усё жыцьцё быў веруючым.

**Стэфэнсон** Жорж (1781-1848) англійскі фі-

зык, першы канструктар паравоза. Быў пратэстантам, але ўсё жыцьцё шчыра веруючым.

**Брэвстэр** Давід (1781-1808) ангельскі фізык, вынаходнік стэрэоскопу і калейдэскопу. Усё жыцьце быў веруючым, а ззамаладу думаў нават аб духоўным стане.

**Фраунгофэр** Язэп (1787-1826) выдатны нямецкі фізык у галіне оптыкі, палепшыў тэлескоп і зрабіў паважныя адкрыцьці ў сонечным спэктры. Быў шчыра рэлігійны і выконваў усе прыпісы Каталіцкае Царквы.

**Ом** Жорж (1787-1854) нямецкі фізык, якому заўдзячваем права Ома ў электродынаміцы. Быў шчыра рэлігійным і доўгі час быў прафэсарам у езуіцкай калегіі ў Кэльне.

**Бэкэрэль** Цэзар (1787-1878) выдатны францускі фізык і хэмік, які шмат прыслужыўся сваімі працамі ў галіне электрычнасьці, цяпла і сьвету, запачаткаваў электрахэмію. Яго агульна характэрызуюць, як «веруючага хрысьціяніна, які цнатліва жыў і ўміраў з надзеяю на Бога».

**Фрэснэль** Аўгустын (1788-1827) геніяльны францускі фізык, ягоныя адкрыцьці шмат прычыніліся да разьвіцьця оптыкі. Быў шчыра рэлігійным і свае здольнасьці ўважаў Божым дарам, якім павінен служыць сваім суродзічам і ўсім людзям.

**Фарадэй** Міхаіл (1791-1867) ангелійскі фізык і хэмік, найбольшы экспэрымэнтатар, якога бачыў сьвет; адкрыў: электрычную індукцыю, электролізу, права Фарадэя, дыямагнэтызм і шмат інш. Быў глыбока пабожны, належаў да англіканскае сэты глясістаў. За сваю веру шмат мусіў цярпець. Канчаючы свае выклады ў Каралеўскім Інстытуце ў 1847 г., казаў: «Наша веда, якая пазнае толькі рэчаў мусіць прывясьці нас да думкі аб тым, дзелам Каго яны зьяўляюцца..., бо пасьля стварэньня сьвету можа быць ясна бачаная вечная Магутнасьць і Боскасьць».

**Морзэ** Самуіл (1791-1872) амэрыканскі фізык, які вынайшаў тэлеграф і альфабэт названы яго іменем. Аб ягонай рэлігійнасьці можа сьведчыць дэпэша, якую ён надаў на ўсе амэрыканскія станцыі падчас сьвята ў ягоную чэсьць 1869 г., дзе казалася: «Слава на небе Богу, а на зямлі мір людзям добрае волі».

**Дэ ля Рів** Аўгуст (1801-1873) швайцарскі фізык, акадэмік, вызначыўся працамі ў галіне электрычнасьці. Усё жыцьцё быў веруючым, перад сьмерцю пісаў: «Маю агульнае ўражэньне, што такія навукі, як фізыка і астраномія знайходзяцца ў такім стане, што найлепш прыводзяць да пазнаньня Бога і што лік атэістаў фізыкаў, калі ня роўны нулю, дык усё-ж вельмі малы».

**Вэбэр** Вільгэльм (1804-1891) першы прымяніў графічную мэтоду ў акустыцы і зрабіў некаторыя вынахады ў электрадынаміцы. Быў веруючым.

**Пальміеры** Люіжі (1807-1896) італьянскі фізык, які вынайшаў шмат новых прыладаў, як: электромэтр, сэйсмомэтр і інш. Быў шчыра веруючым.

**Майер** Робэрт (1814-1878) нямецкі фізык і прыродавед. Быў пратэстантам, але глыбокаверучым. У ягоных творах часта сустракаюцца глыбока-рэлігійныя сказы: «Мае ранейшыя прадчуцьці, што прыродаведныя праўды так адносяцца да рэлігіі, як ручукі і рэкі да сусьветнага мора, цяпер жыва стаять у маёй сьведамасьці».

**Гірн** Густаў (1815-1890) францускі фізык, які зрабіў некалькі вынахадаў у тэрмадынаміцы. Адносна сусьвету ён казаў: «Сусьвету нельга выясьніць бяз інтэрвэнцыі якоесь свабоднае волі, Якая ёсьць перад усімі зьявамі».

**Джуль** Джэмс (1818-1889) англійскі фізык, дасьледнік цяплыні, ягонае імя носіць адзінка сілы. Падзіўляючы гармонію і парадак у сусьвеце, Джуль казаў: «усё гэта апаноўваецца самаваладарнаю воляю Бога».

**Фуко** Лявон (1819-1868) выдатны францускі фізык і мэханік, вынайшаў гіраскоп, даказаў кручэньне зямлі і інш. Нейкі час ён быў недаверкам, але потым вярнуўся да шчырае веры, а ўміраў зусім пакаталіцку, прыняўшы сьвятыя Тайны.

**Сток** Жорж (1819-1903) паважны англійскі фізык, вызначыўся ў оптыцы, быў веруючым і выступаў у абароне веры.

**Гэльмгольц** Гэрман (1821-1894) нямецкі фізыялёг, матэматык і фізык, вынайшаў офтальмомэтр і шмат інш. Быў веруючым.

**Томсон** Віліям (1824-1907) ірляндзкі фізык, вызначны тэорэтык энэргэтыкі, вынайшаў шмат прыладаў для досьледаў электрычнасьці і магнэтызму. Быў веруючым і ўважаў, што з чыста навуковых выснаўкаў трэба прызнаць існаваньне Бога. У адной з прамоваў у 1903 г. казаў: «Навука не супрацiўляецца рэлігіі, але яе ўспамагае».

**Тэліе** Шарль (1829-1913) францускі фізык, які ўважаецца бацькам сучаснае халадзільнае індустрыі. Быў глыбока рэлігійным. Кожную першую нядзелю месяца ўдзельнічаў у працэсіі Найсьв. Эўхарыстыі з сьвечкаю ў руках. На банкеце ў ягоную чэсьць казаў: «Бяз Божае помачы я не дайшоў-бы да ніякіх паважных вынікаў».

**Максвэл** Джэмс (1831-1879) вызначны англійскі фізык дасьледнік электрычнасьці і малекулаў. Быў шчыра веруючым. Пасьля яго перадчаснае сьмерці ў ягоных паперах знойдзена прыгожыя малітвы, якія ён сам укладаў: «Усемагутны Божа, вучы нас так дасьледаваць творы Тваіх рук, каб мы апанавалі зямлю для нашага ўжытку і наш розум узмоцнілі Табе на службу...»

**Тэйт** Пятро (1831-1901) англійскі фізык, які сваімі досьледамі шмат прычыніўся да поступу фізыкі і натуральнае філязофіі. Ён казаў: «Навука цяпер так разьвітая і далёкая ад таго, каб

быць у супярэчнасьці з хрысьціянствам, што стаецца яго дзейнаю падтрымкаю».

**Кайетэ** Люі (1832-1914) францускі фізык, які вынайшаў прылады для зводненьня газаў. Быў практыкуючым каталіком.

**Ван дэр Вальс** Іван (1837-1922) галяндзкі фізык, які вызначыўся сваімі працамі ў кінэтычнай тэорыі газаў. Аб ім гаварылі: «Усе знаюць, што Ван дэр Вальс ёсьць веруючым».

**Амага** Эміль (1841-1915) францускі фізык, які ўславіўся сваімі працамі ў галіне статыкі вадкасьцяў і элястычнасьці газаў. Ад яго мае пачатак права Амагата. Усё жыцьцё быў веруючым, а перад сьмерцю, прыняўшы сьв. Тайны, казаў: «Я хацеў-бы ўдзяліць маю веру ўсім вучоным, з якімі я жыў».

**Ліпман** Гаўрыіл (1845-1921) люксэмбургскі фізык вынаходца каляровае фатаграфіі і інш. Быў жыдам, але заўсёды меў духовую веру.

**Грам-Бэль** Ал. (1847-1922) амэрыканскі фізык, сканструваў фотофон, супрацоўнічаў у вынахадзе тэлефону і інш. Быў глыбока рэлігійным.

**Эдісон** Тамаш (1847-1931) геніяльны амэрыканскі фізык. Зрабіў шматлікія вынахады асабліва ў галіне электрычнасьці: электрычную лямпачку, акумулятар, тэлефон і шмат інш. На пытаньне аб адносінах да Бога Эдісон часам адказваў, што ня меў часу думаць аб гэтым, але на сусьветнай выстаўцы ў Парыжу 1899 г., будучы на вяршыне Айфэлевае вежы напісаў у Залатой Кнізе: «Выяўляю свой падзіў для адважнага будаўнічага гэтае арыгінальнае вежы, бо маю вялікую пашану да ўсіх будаўнічых, а найбольш да найгеніяльнейшага будаўнічага — да Бога».

**Плянк** Макс (1858-1947) выдатны нямецкі фізык, асновапаложнік тэорыі квантаў. Быў пратэстантам, але шчыра веруючым. Аб сваёй веры ня раз заяўляў прылюдна: «Між рэлігіяю і прыродазнаўствам нідзе няма супраціўленьня; наадварот якраз у істотных пунктах ёсьць поўная сугучнасьць».

**Рутэрофрд** Эрнэст (1871- 1937) вызначны ангелійскі фізык, дасьледнік атамаў, першы запачаткаваў іх разьбіцьцё. Быў шчыра веруючым і часта аб гэтым заяўляў публічна пры розных нагодах і на дакладах.

**Марконі** Гвіілельмо (1874-1938) геніяльны італьянскі фізык вынаходнік радыёапарату і інш. На запытаньне аднаго журналіста, што ён думае аб адносінах рэлігіі да навукі, адказаў: «Навука ня ў стане выясьніць шмат рэчаў, а перадусім тайніцы нашага існаваньня; чым ёсьць чалавек? які яго пачатак? Хоць ад шмат вякоў над гэтым задумоўваецца, ня можа знайсьці на іх адказу. Што да мяне, дык сьцьвярджаю з гонарам, што я ёсьць каталік. Веру ў сілу малітвы. Веру ў гэта ня толькі, як каталік, але так-жа, як вучоны».

**Джінс** Дж. выдатны сучасны англійскі фізык і астраном. У сваім творы «Фізыка сусьвету» піша: «На аснове сучасных асягненьняў навукі сьцьверджана, што атамы нішчацца, і адгэтуль выцякае, што яны мусілі калісьці ўзьнікнуць. Калісьці мусіла адбывацца здарэньне, або рад здарэньняў, або пастаянны працэс узьніканьня матэрыі». Далей гаворачы аб прамяністай энэргіі, якая мела крышталізавацца ў электроны і протоны, даючы гэткім чынам пачатак паўстаньня сусьвету, кажа: «Калі хочаце мець канкрэтны абраз, дык можаце ўявіць сабе палец Божы, выклікаючы дрыжаньне этэру».

**Айнштайн** Альбэрт — выдатны сучасны фізык, асновапаложнік тэорыі рэлятыўнасьці. Жыд, які моцна верыць у Бога. Крытыкуючы аднойчы тэорыю квантаў, казаў: «Я ня веру, каб Бог забаўляўся, пакідаючы на гульню сусьвет...»

**Дэссаўэр** Фрыдрых — адзін з большых навейшых нямецкіх фізыкаў. У сваім творы «Цуды ў сусьвеце» піша: «Як прыроднік, гледзячы на рух компасу, сьцьвярджае існаваньне магнэтычнага поля, яго кірунак і сілу; зусім слушна мы павінны дайсьці да падобнага выснаўку, што ёсьць яшчэ іншая сапраўднасьць, незалежная ад нас, якая кіруе компасам душы і валадарыць над сьветам духа».

**Томсон** Дж. Дж. — сучасны амэрыканскі фізык. У творы «Матэрыя, энэргія і этэр» піша аб поступе сучаснае навука так: «У меру таго, як мы йдзём упярод... уздымаемся на ўсё больш і больш высокія вяршыны, тым, хто на іх узыйдзе, яны адкрываюць штораз больш шырокія пэрспэктывы, яны яшчэ больш падмацоўваюць нашае ўнутранае пачуцьцё, непамыльнасьць якога становіцца яшчэ больш нагляднаю пры кожным асягненьні навукі, а гэтае ўнутранае пачуцьцё кажа: вялікія дзеяньні Створцы».

**Лёдж** Олівэр —сучасны англійскі фізык аднойчы казаў: «Уся сусьветная схэма такая велічная, такая бязьмежная і неабнятая, што вымагае ад нас хоць-бы ў напаўсьведамым, але ўсё-ж у рэальным сэнсе прызнаньня Арганізатара і Кіраўніка да таго-ж адначасна даступнага для малітвы і гатовага прыйсьці да помачы «пасвойму і ў свой час», але заўсёды гатовага памагаць і заўсёды належным спосабам».

***

З гэтага пералічэньня найвыдатнейшых прадстаўнікоў фізыі і іхных адносінаў да рэлігіі можна лёгка ўбачыць, што цяпер атэізм з навуковага гледзішча страціў зусім грунт пад нагамі. Што так ёсьць у сапраўднасьці, могуць быць сьведкамі самыя-ж бязбожнікі. У 1939 г. група прафэсароў-атэістаў з французскіх унівэрсытэтаў зьвярталася да Прэзыдэнта Сойму з лістом, у якім гаварылася: «Мы ўсе, або амаль усе, прызнаём, што школа бяз Бога збанкрутавала і сыпіхае Францыю на дно бязодні. Цяпер на гвалт неабходна апамятацца і прызнаць свае памылкі ды вярнуць Бога ў нашы школы. Не павінна быць

больш пытаньня абыякавасьці...» Далей гаворыцца, чаму так сталася і што яны адчуваюць неабходнасьць помачы з неба. Канчаецца ліст просьбаю, каб прэзыдэнт дапамог сваім аўтарытэтам для ажыцьцяўленьня іхняга пляну. Падпісаў гэты ліст ад імені цэлае групы Андрэй Вайянт.

Гэты ліст не ёсьць сёньня нечым выняткoвым, такіх галасоў можна пачуць ад вучоных больш, гэтаму спрыяе сучасны стан навукі, які нядаўна памёршы выдатны амэрыканскі біялёг Лекомт дэ Ноюі ў сваёй кнізе «Чалавек і яго прызначэньне» коратка характэрызуе так: «Навука калісь ужывалася для падкопваньня асноваў рэлігіі, а цяпер трэба ўжываць навуку, каб іх (асновы рэлігіі) узмацняць». І гэта ўжо ня ёсьць толькі пажаданьне, але факт — перадавыя вучоныя знайходзяцца ў перадавых радох вернікаў. Граф. Манлей аб гэтым піша: «Я ня бачу ў хрысьціянскай навуцы нічога нясумяшчальнага з сучасным разьвіцьцём навуковых дактрынаў. Я лічу, што думка аб нясумяшчальнасьці можа зьявіцца толькі на грунце грубай і павярхоўнай філязофіі. Нават з свайго вопыту я вынес перакананьне, што адсутнасьць веры ў Божае абʼяўленьне, у сьмерць і ўваскрасеньне Хрыста Збаўцы пераважае сярод тых, каго я сабе дазволю назваць абозным арʼергардам пры лягэры навукі, а сярод тых, для каго жывая навуковая праца стварае праўдзівую жыцьцёвую задачу, жыве моцная вера ў Бога».

Адносна гэтага пошняга цьверджаньня можна зрабіць хіба тую засьцярогу, што навуковая адсталасьць ня ёсьць адзінаю прычынаю няверства, але яна лягчэй дазваляе закараніцца іншым прычынам, якія ствараюць падатны грунт для бязбожжа. Аднак для нашае тэмы вельмі важна, што сучасныя вучоныя сьцьвярджаюць навуковую адсталасьць іхных няверуючых калегаў.

Сучасны стан навукі, маючы выразны кірунак для збліжэньня з рэлігіяю выклікае частыя але бясьсільныя напады з боку бязбожнае прэсы, у першую чаргу бальшавіцкае ,бо дарэшты зьнішчае іхны завучаны кліч, што «рэлігія працівіцца навуцы».

Сучасная навука ёсьць на шляху да ўспамаганьня рэлігіі і гэта можна лічыць за пацяшаючы знак часу. **а. Л. Гарошка.**

# ТЫ І ЯНА

(Працяг 13-ы)

Р а з ь д з е л 10.

## ДЗЯВОЦТВА

Згодна з недасьледжаным Божым правідам ня ўсе людзі пакліканы да сужэнства. Шмат хто мае ад Бога пакліканьне да сьвятарскага, або да законнага стану. Ахвяра быць нежанатым і захоўваць дзявоцтва, якое вымагае ад некаторых Каталіцкая Царква, мае свае глыбокія доказы ў натуры самога стану.

Галоўнаю мэтаю чалавека ёсьць: славіць Бога цераз унутраную ахвяру, каторую прыносім тады, калі выконваем Яго сьвятую волю. Што дзееццa ўнутры чалавека, тое дамагаецца праявіцца навонках і чым тое ўнутранае сільнейшае, тым цяжэй яго затаіць. Пры тым выяўленьне навонках таго, што чалавек перажывае ў душы, узмацняе самое перажываньне, робіць яго магутнейшым, глыбейшым і шырэйшым. І наадварот, калі няма вонкавага выяўленьня, дык напружаньне ўнутранага жыцьця ўсьцяж слабее і можа нават дайсьці да таго, што яно занікне і патухне зусім.

Калі прымем, што ахвяра ёсьць найдасканальшым актам культу, найвышэйшым абавязкам чалавека ў адносінах да Бога, дык ці-ж яна можа астацца толькі ўнутры душы чалавека без выяўленьня? Што-як-што, але ахвяра павінна выйсьці, паказацца сьвету, праявіць сябе ў пачыне. Толькі гэтак унутраная ахвяра праз вонкавае праяўленьне зможа ўтрымацца і стацца больш жыцьцяздольнай. Калі няма вонкавых ахвяраў, гасьне полымя ўнутранай ахвяры і астаецца ад яе толькі пажарышча і попел эгаізму.

Патрэба вонкавай ахвяры апіраецца яшчэ на іншых асновах. Чалавек ёсьць зложаны з душы і цела. Дзеля таго і ў найвялікшым акце культу, да якога паклікана стварэньне, гэта значыць у акце ахвяры, павінны ўдзельнічаць і душа і цела. Успомнім яшчэ і тое, што ўвесь бачаны сьвет можа асягнуць сваю апошнюю мэту толькі цераз чалавека. А чалавек павінен так карыстацца ўсім існуючым, каб яно служыла для ўслаўленьня Бога.

Гэта ёсьць магчыма тады, калі чалавек бярэ найлепшае са сьвету і прыносіць яго ў ахвяру Богу, каб такім чынам Яму, як Валадару сусьвету аддаць чэсьць, падзякаваць, прасіць Ягонай помачы і перапрасіць за шматлікія правіны. Таму цераз вонкавую ахвяру чалавек аддае Богу найвялікшую чэсьць!

Гэты абавязак чалавека ў адношаньні да Бога так глыбока пранікае людзкую натуру, што няма такога народу ў сьвеце, які не складаў-бы ахвяраў Богу. Хаця быў час, што занікала вера ў аднаго праўдзівага Бога, хаця пагане ўважалі за Бога: сонца, месяц, зоры, зьвяроў і розных ідалаў — аднак усюды і заўсёды прыносілі ім ахвяры. Адна толькі рэлігія ня прызнае вонкавых ахвяраў — гэта пратэстантызм, каторы агулам запярэчвае многія істотныя праўды хрысьціянства і адракаецца ад ахвяраў.

У кожным народзе знаходзім выбраных лю-

дзей, прызнаных для прыношаньня ахвяраў. Гэтыя людзі ад вякоў займалі ў грамадзтве асабліва мейсца. Яны былі пасрэднікамі між Боствам і людзьмі. Дзеля таго яны павінны былі асабліва падабацца Боству. І ня дзіва, што нават паганскія народы вымагалі ад тых людзей, каторых галоўным абавязкам было; прыносіць ахвяры такжа пэўных асабістых ахвяр, што мусіла рабіць іх мілымі ў вачох Боства.

Той, што прыносіць Богу ахвяры, павінен быць чысты ад усялякай правіны, а перадусім у галіне плоцьнага жыцьця, якая лёгка кідаецца ў вочы. А небясьпека плоцьнага надужываньня і непамернасьці ёсьць вялікай нават для тых, што жывуць у сужэнстве. Таму спатыкаем дзіўную рэч, што ад жрацоў і жрыцаў у паганскіх часох у некаторых народаў вымагалася вырачэньня сужэнства. Рымляне, прыкладам, дзявочасьць вэсталак сьцераглі з такой суровасьцю, што нарушаючая ея, каралася галадоваю сьмерцю цераз закопваньне жыўцом у зямлю. Падобна сурова караліся вайдэлёткі ў летувіскіх плямёнаў.

Гэтыя заўвагі паказваюць, як цесна зьвязана сьвятарства з дзявоцтвам. Дык ці-ж ёсьць дзіўна, што Каталіцкая Царква, найдасканалейшая з рэлігіяў, вымагае ад сваіх сьвятароў дзявоцтва? Людзі, каторыя маюць пачэсны абавязак штодня аднаўляць на аўтарох найдастайнейшую ахвяру сьвету, павінны сябе зрабіць больш годнымі для выконваньня яе праз дабравольнае прырачэньне заўсёднага дзявоцтва.

Выходзіла-б за межы нашай скромнай працы, калі-б мы жадалі падаць усе доказы, якія прамаўляюць за бязжэнным сьвятарствам. Зьвернем увагу толькі на адно. Людзі заўсёды патрабуюць прыкладу, хочуць бачыць такіх асобаў, якія-б на сабе сьцьвярджалі магчымасьць аставацца заўсёды чыстымі. Сёньня патрэба гэтых доказаў, асабліва для моладзі, адчуваецца больш, чым калі.

Супраць усіх брудных закідаў на бязжэнных сьвятароў трэба падчыркнуць, што каталіцкае духавенства захоўвае бязжэнства (цэлібат). Бяз сумніву здараюцца выняткі. Сярод дванаццаці апосталаў знайшоўся нават зраднік. Розныя абставіны могуць спрычыніць збачэньне. Трудна судзіць, ці ўпадак быў наступствам нейкага спадковага брыдкага нахілу, ці стаўся дзеля недастатковага разуменьня велічы сьвятарскіх абавязкаў, або дзеля ня зусім шчырае інтэнцыі пры выбары стану ,ці проста дзеля неразважнасьці, палучанае з занядбаньнем малітвы. Зусім зразумела, што такога роду сумныя хоць і рэдкія выпадкі падхопліваюцца і раздзьмухваюцца асабліва тымі людзьмі, якія самі не бяз закіду і жадаюць чужым коштам прыкрыць уласнае балота. Але выняткі ня ёсьць доказам тады, калі нязьлічаныя тысячы праз усё жыцьцё шчыра захоўваюць дзявоцтва.

Падобнае апостальства ціхага прыкладу вядуць законьнікі. У Божым валадарстве на зямлі ёсьць некаторыя заданьні, якія могуць выконваць толькі тыя, што ўмеюць сьцерагчы свае сэрцы ад усякай прыземнай любові. Таму каталіцкія манастыры і каталіцкія законьнікі ўжо праз сваё існаваньне зьяўляюцца тым красамоўным казаньнем з нязьбітымі доказамі, што існуюць вышэйшыя рэчы, чымся цялесныя роскашы і што чыстасьць патрэбная ў маладасьці ёсьць магчымай праз усё жыцьцё.

Паводля навукі Хрыста дзявоцтва выбранае з любові да Бога стаіць вышэй чымся сужэнства. Яно ёсьць ахвярай, якою ў асаблівы сопсаб аддаецца чэсьць Богу. Праўда, праз яе чалавек вырақаецца цяласнага патомства, але-ж ёсьць яшчэ бацькаўства вышэшае, духовае, праз якое памнажаецца, утрымоўваецца і магутнее надпрыроднае жыцьцё душы. А толькі гэтае жыцьцё мае вечную вартасьць.

У небе для дзявочых душ ёсьць асаблівая чэсьць, бо іх акружаць сотні і тысячы іншых душ, каб падзякаваць ім за жыцьцё ласкі, якое заўдзячваюць дзявочым душам, іхным ахвярам, трудом і малітвам і каторае адчыніла гэтым душам брамы неба.

Такая чэсьць прызначана толькі для дабравольнага, з любові да Бога выбранага дзявоцтва. Калі-б хто выбраў стан нежанатага толькі дзеля таго, каб ня мець клопатаў сямейнага жыцьця, або дзеля іншых зямных меркаваньняў, дык бяз сумніву гэткае эгаістычнае бязжэнства не паставіць яго вышэй бязжэнства. Ды рэдка каторы такі чалавек захавае чыстасьць!

Бываюць і такія, што дзеля розных прычын ня могуць уступіць у сужэнства. Яны павінны згадзіцца са сваёю доляй і прызнаць у ёй Божую волю ды старацца захаваць крыштальна чыстае жыцьцё ў вольным стане. Здабыцца на падобную ахвяру і вытрываць на падобным шляху змогуць толькі тыя, што захочуць паслугоўвацца сродкамі, аб каторых была гутарка перш, і каторыя даюць чалавеку Божую ласку захаваць чыстасьць.

(Працяг будзе).

Паводля кніжкі Шільгэна «Du und Sie»

апрацаваў **Васіль Друя.**

# Беларуская форма крыжа

Увесь хрысьціянскі сьвет, калі шануе сьвяты Крыж, дык не якісьці нацыянальны, але Крыж Хрыста-Збаўцы людзкога роду. Крыж, які Хрыстос абмыў сваею сьвятою Крывёю і на якім умёр за нашы грахі. Той Крыж Хрыста быў з грубога дрэва, бяз ніякіх прыкрасаў; толькі найсьвяцейшая Кроў Хрыста ахварбавала яго.

Якая была форма Хрыстовага Крыжа? Звы-

чайна рымляне для крыжаваньня злачынцаў ужывалі крыж у форме літары Т, а калі трэба было над галавою укрыжаванага прыбіць напіс, дык тады зьбіваліся накрыж два кавалкі дрэва, так каб крыху выставаў верхні канец. Дзеля гэтага сёньня ўважаецца, як бяссумніўна даказаным, што Крыж Хрыста меў форму, якую агульна называюць «лацінскаю», або «рымскаю». Гл. Нр. 2.

Крыж у гэтай форме шанавалі, як вялікую сьвятасьць ужо першыя хрысьціяне. На сьценах у хрысьціянскіх дамох горада Пампэі, залітага ляваю Вэзувія ў 79 г., знойдзена сьляды лацінскага крыжа, а ў адным паганскім доме ў той-жа Пампэі знойдзена насьмешлівы малюнак Укрыжаваньня з гэткім-жа крыжам.

Калі Хрысьціянства вышла пераможна з прасьледаваньняў, крыж стаўся знакам перамогі; яго пачалі прыкрашваць на розныя лады; пачалі ўжываць ня толькі для рэлігійных мэтаў, але і ў гэральдыцы і ў арнамэнтыцы і інш. На сьцягох рымскіх легіёнаў красаваўся т. зв. лябарум Канстанціна, гл. Нр. 9.

Сёньня ёсьць такая колькасьць формаў крыжа, што іх нават пералічыць цяжка. Тут для прыкладу падаюцца толькі некаторыя больш распаўсюджаныя і асноўныя формы крыжа.



1. Візантыйскі (Грэцкі) крыж, 2. Лацінскі (Рымскі) крыж, 3. крыж Антонія, 4. Пятроў крыж, 5. Андрэяў крыж, 6. Візантыйска-Андрэяўскі крыж, 7. Ягіпецкі і Коптыйскі крыж, або т. зв. нільскі ключ, 8. Крыж сонечнага кола, 9. Крыж Канстанціна, або т. зв. Лябарум, 10. Іншая форма Лябарум, 11. Падвойны і архібіскупскі крыж, 13. Папскі крыж, 13. Кіяўскі крыж, 14. 15. Расейскія крыжы, 16. Крыж Іоанітаў — рыцарскі, 17. Ерузалімскі крыж, 18. Кастылёвы крыж, 19. Кротны крыж, 20. Катвіавы крыж.

Пераглядаючы самыя назовы крыжоў, відаць, што некаторыя іхныя формы зьвязаны з асобамі апосталаў, а некаторыя з краінамі. І тут напрошваецца пытаньне: ці Беларусь мела своеасаблівую форму крыжа, ці не?

Каб дакладна і пэўна адказаць на гэтае пытаньне, трэба мець даволі гістарычнага матэрыялу і фактаў, але назьбіраць іх у сучасных эміграцыйных умовах у дастатковай колькасьці, амаль немагчыма. Дзеля гэтага прыходзіцца абмежавацца да тых нешматлікіх матэрыялаў, якія прынагадна можна стрэнуць у друку. Але ўжо з таго, што ўдалося сабраць гэткім чынам, выдаецца вельмі праўдападобным, што на Беларусі была калісьці своеасаблівая форма крыжа.



**Крыж сьв. Еўфрасіні зроблены Л. Богшаю ў 1161 г. Цяпер няведама дзе.**

Найлепшым прыкладам гэатага крыжа ёсьць шасьціканцовы крыж сьв. Еўфрасіні зроблены Лазарам Богшаю ў 1161 г. Зусім такі самы крыж быў на ўсіх так званых Барысавых камянёх і на Рагвалодавым камені. Усе гэтыя памяткі паходзяць з XII в. і гэта сьведчыць, што тады гэткая форма крыжа была агульнапрыынятая на Беларусі. Для нас вельмі цікава, што гэткая-ж форма крыжа сёньня вельмі распаўсюджаная ў Лётарынгіі і мае афіцыяльны назоў Лётарынгскага крыжа. Аднак у Лётарынгіі зьявілася гэтая форма крыжа толькі ў 15 в. пасьля крыжовых паходаў, дзякуючы спароднеьню Лётарынскіх князёў з патомкамі Готфрыда Буйёнскага Ерузалімскага караля. Бо ўсе гыя манашыя ордэны і ваенныя арганізацыі, якія сьцераглі сьвятую зямлю і гроб Хрыста ў Ерузаліме, дадавалі да лацінскага крыжа яшчэ верхнюю перакладзіну з надпісам: I. N. R. I., творачы гэткім чынам шасьціканцовы крыж. Гэткі-ж самы крыж сустракаецца яшчэ і ў гэральдыцы на пячатках каталіцкіх архібіскупаў і мітрапалітаў. Так-жа на багаслужэньнях архібіскупаў і мітрапалітаў носяць перад імі шасьціканцовы крыж.

Якім чынам магла зьявіцца на Беларусі шасьціканцовая форма крыжа з пэўнасьцю цяжка сказаць. Магчыма, што яна прыйшла з Палестыны праз Візантыю, дзе ў гадох 1129-1132 знаходзілася некалькі Полацкіх князёў, а гэта быў якраз той час, калі крыжаносцы пабіўшы туркаў завалодалі Ерузалімам і шасьціканцовы крыж стаўся сымбалем перамогі хрысьціянства над магамэтан-



**Рагвалодаў камень з 1171 г., узарваны ў 1936 г.**

ствам. Аднак ня выключаная рэч, што шасьціканцовая форма крыжа вытварылася на Беларусі зусім незалежна, бо на Беларусіх землях з даўных часоў быў ведамы двукрыж у форме стоцьнага спалучэньня двух грэцкіх крыжоў. Некаторыя дасьледнікі выказвалі думку, быццам двукрыж меў быць знакам бажка Ярылы, але фактычных доказаў на падцьверджаньне гэтае думкі няма ніякіх, затое ёсьць доказы, што двукрыж мае хрысьціянскае паходжаньне. Даўней часта сустракаўся двукрыж у хрысьціянскіх сьвятынях, як гэта можна выразна бачыць яшчэ сёньня на філярах муроў, якімі абнесены пагост царквы ў Сынкавічах, пабудаванае ў XV в., а паганскіх знакоў у хрысьціянскіх сьвятынях не дапушчалася.

Калі пераглядаць формы крыжоў на Беларусі з канца XIII в. і пазьнейшыя, дык прыходзіцца сьцьвердзіць, што гэтыя формы стаюцца рознаякімі. Ужо ў XIII в. манахі і манахіні насілі на грудзёх крыжы грэцкае формы з трылістнымі упрыгожаньнямі, як аб гэтым сьведчыць крыж сьв. Параскевы Полацкае.



**Крыж сьв. Параскевы Полацкае.**

Крыж з косаю перакладзінаю ўнізе ёсьць расейскага паходжаньня. Ён мае азначаць спалучэньне мітрапалічага крыжа з андрэяўскім. У Расеі гэткі крыж стаўся азнакаю праваславія, але ў Грэцыі і Візантыі ён ня сустракаецца, а спалучэньне з Андрэяўскім крыжам мае іншую форму. Гл. Нр. 6. На Беларусі расейская форма крыжа зьявілася ўканцы XVIII в., калі Беларусь трапіла пад расейскую ўладу. Аднак ня гледзячы на розныя ўплывы і націскі з розных бакоў шасьціканцовы крыж на Беларусі не затраціўся да нашых часоў, толькі цяпер ён перастаў быць выключнаю формаю. Цяпер вернікі ня толькі на Беларусі, але на ўсім сьвеце шануюць крыж Хрыста ўва ўсіх гых формах, якія апрабаваныя Хрыстоваю Царквою.

**а. Л. Гарошка.**

# КІНО

**(Яго добрыя і дрэнныя ўплывы).**

55 гадоў таму назад (дакладна 28-XII-1895) францускія браты Люмьер у Парыскім Гран Кафэ высьветлілі першы камічны фільм даўжынёю ўсяго 17 мэтраў пад назовам: «Абліты палівальшчык».

Ня шмат гадоў, а колькі зьмянілася ад таго часу! Браты Люмьер сёньня не пазналі-б свайго дзіцяці, катора́е вырасла і заўладала фантазіяй усяго сьвету. Даволі кінуць вокам на маўклівыя статыстыкі, якія гавораць самі за сябе.

У Злучаных Штатах Амэрыкі перад другою сусьветнаю вайною налічвалася 100 мільёнаў глядзельнікаў кіна на тыдзень. Італьянскі сэнатар Альфіэры у 1937 г. зьвяртаў увагу на факт, што 700.000 італьянцаў кожны дзень ходзяць у кіно. У 1942 г. у Італіі на працягу году прадана 477 мільёнаў білетаў у кіно; апрача таго больш 4-х мільёнаў у кіно «Навіны», або як яго італьянцы называюць «Рівіста» (Агляд). Заакругліўшы лікі, выглядала-б гэтак, што кожнага дня ў Італіі ў 1942 г. прадавалася паўтара мільёна білетаў. У іншых краінах было ня інача́й, толькі магчы-

ма былі розныя прапорцыі, залежна ад ліку жыхароў у краіне.

У часе апошняе сусьветнае вайны кіно і артысты шмат пацярпелі, але яно не заціхала ніколі, нават у часе налётаў траскацеў кінематограф. А ледзь скончылася вайна, ізноў усё ажыло.

Дзеля агульнага дабра варта сабраць розныя ўвагі аб кіне,за і супраць яго.Такія заўвагі могуць быць вельмі карысныя для кожнага глядзельніка, а дзе вы сёньня знойдзеце культурнага чалавека, які-б ніколі ў сваім жыцьці ня быў глядзельнікам кіно?

### Ці галіна мастацтва?

Можна ставіць пытаньне:. ці кіно ёсьць новым родам мастацтва, ці толькі пашырае мастацкія творы музыкі, сьпеву, тэатру?

Мастацтвазнаўцы на гэтае пытаньне адказваюць розна. Аляксандар Арну кажа: «Кіно не зьяўляецца мастацтвам; яно ня ёсьць прадпрыемствам, гэта проста рамясло». Падобна думаў італьянскі паэт Д-Анунціо: «Я ненавіджу гуковага кіна і назольныя для мяне яго літаратурныя навучанкі, быццам выясьненыя колерам і рухам маўклівых абразоў».

Іншыя ставяць кіно нароўні з праўдзівым мастацтвам. Лягчэй аднак згадзіцца з тымі, якія даюць яму пасрэдную пазыцыю.

Гэтак Э. Чэккі ўважае, што «Кіно ня ёсьць мастацтвам у абсалютным разуменьні гэтага слова (як малюнак, паэзія і інш.), але ў значэньні пасрэдным (як харэаграфія і інш.). Падобна адзываецца Рудольф Арнгайм: «Мастацтва малюнку ў руху ёсьць ня менш стараветным, як усе іншыя мастацтвы; яно ёсьць старым, як само чалавецтва і кінематограф ня ёсьць нічым іншым, як навейшым праяўленьнем гэнага мастацтва. Кіно ўканцы можа асягнуць вяршыні іншых родаў мастацтва, абы яно толькі звольнілася ад путаў мэханічнае рэпрадукцыі і каб зьявілася, як чысты твор чалавека, гэта значыць, каб фільм мог быць зроблены з малюнкаў».

Гэта аднак чыста тэарэтычная спрэчка і яна ня мае значэньня ў практыцы. Незалежна ад яе паўсталі вялізарныя будынкі званыя кіно-гарадамі, дзе маўляў у тым зачараваным палацы сходзяцца мастакі слова і руху ды аддаюць свае найлепшыя таленты, каб пад гукі музыкі і ў ап'яняючым сьвятле павялічыць кіновую прадукцыю. Кіно гуртуе вакол сябе масы работнікаў, тэхнікаў, артыстых. Прамысловасьць, зьвязаная з ім, дае аграмадныя даходы.

Калі гаворым аб кіне і мастацтве, нельга запярэчыць аднае зусім новае рэчы, якую даў кінематограф, — гэта магчымасьць адтварэньня акцыі. Да часоў вынахаду кіна, для мастака, які маляваў, ці рэзьбіў, было мукаю абмяжоўваць усе свае лятуценьні да адтварэньня аднае хвіліны на малюнку ці ў мрамары. Гэта значыць, таго, каго прадстаўляў мастак, трэба было паказаць у адным жэсьце, у адной позе. Гэта бяз сумніву абмяжоўвала мастака. Кіно паставіла сабе за заданьне: адтварыць у цэласьці чалавека, зьвера і т. д. у кожным іх руху. Паэт, музык, ці разьбар твораць адменна, чым рэжысэр кіно: яны дабываюць з душы ўсё тое, што пасьля будзе цешыць людзкія пачуцьці; рэжысэр кіно ўкладае цэласьць свайго твору з таго ўсяго, што мае жыцьцё, цела, расьцягласьць і глыбіню. Гэніяльнасьць яго твору праявіцца найбольш у адпаведнай кампазыцыі і ў руху. Эстэтычнае вычуцьцё кампазыцыі і выяўленьне розных рухаў у фільме, падымаюць яго да вышыні мастацтва. Аднак дзеля таго, што эстэтычнае спалучэньне шматлікіх элемэнтаў ёсьць даволі цяжкаю справаю, таму рэдка ўдаецца пабачыць прыгожы фільм.

### Школа і веда.

Тут кіно мае аграмаднае значэньне. Бяз сумніву яно часта цікавей і хутчэй можа навучыць, чым кніжка ці настаўнік. Вось нядаўна мне давялося бачыць фільм аб прыродзе Новае Зэляндыі і аб прыгажосьці Каліфарнійскае зямлі. За недарагі білет, седзячы ў ціхай салі на мяккім фатэлі і за паўгадзіны часу можна сказаць, што зрабіў вялікае падарожжа. Бачыў расьлінны і жывёлінны сьвет успомненых краінаў, іхныя лугі і горы, вазёры і рэчкі; бачыў, як убіраюцца людзі, як будуюць дамы, як жывуць.

Усё гэта аднак не азначае, што фільм можа заступіць настаўніка. Ніколі! Фільм заўсёды астанецца толькі дапаможнікам. Пэдагагічны фільм у поўным значэньні слова — ёсьць фільм аўтэнтычных, ці інакш кажучы, праўдзівых дакумантаў.

Італія была першай краінай, якая ў 1924 г. стварыла Нацыяльнаны Інстытут Узгадаваўчага Кіна з аседкам у Рыме, дзе ў 1934 г. адбыўся сусьветны Кангрэс Міжнароднага Узгадаваўчага Кіна.

На Кангрэсе абгаворвалася справа, як далёка можна карыстаць з прыслугаў кіна ў навучаньні. Агульна было прынятым, што ў ніякім выпадку кіно ня можа заступіць настаўніка, але толькі мае дапамагаць яму. Кіно бяз сумніву ёсьць найлепшым пашыральнікам ведаў.

Трэба зусім згадзіцца з тым, што гаварыў старшыня ўспомненага Міжнароднага Інстытуту Узгадаваўчага Кіна дырэктар Рокко: «Кіно зьяўляецца найбольш магутным сродкам дакумантацыі, які толькі існуе. Прыкладам географія, антрополёгія, этнографія, соцыялёгія даюцца задакумэнтаваць сябе ў кіно, як ня трэба лепш. У 1909 г. Лёнданскае Этнографічнае Таварыства выкарыстала кіно, каб паказаць прымітыўныя абычаі дзікіх народаў Афрыкі і Аўстраліі. У тым са-

мым годзе Абруцкі князь, вярнуўшыся са свайго падарожжа ў Гімаляі, прывёз шмат кінаплёнак з матэрыяламі паважнага навуковага значэньня для географіі, этнографіі і антрополёгіі. Капітан Скотт у сваім цікавым падарожжы на паўднёвы полюс меў з сабою кіноплёнкаў даўжыні 15.000 м. і заяўляў, што ён ахвотна дзеля гэтага цяжару пакідаў у значным ліку навуковыя прылады, а ўсё гэта таму, што вельмі цаніў кіноматографічную дакумантацыю. Так-жа вялікае падарожжа Нобіле на паўночны полюс у сваіх найбольш драматычных хвілінах, знайшло ў кіноматографе сродак дакумантацыі ўражаючае праўды».

Але ня толькі для географіі і этнолёгіі так прыслужнае кіно. Вось у Нямеччыне кіно ўжывалася, як паважны дапаможнік у студыях над мэталямі, ў галіне батанікі і мэдыцыны. У землябробстве так-жа кіно можа мець паважнае значэньне. У Харвацыі высьвятляліся фільмы такога зьместу: Гадаваньне гародніны; Ворыва цаліны; Гадаваньне бульбы; Абарона расьлінаў ад жамяры. Пры высьвятленьні кожнага падобнага фільму быў спэцыяліст інструктар, каторы дадаткова выясьняў некаторыя паказаныя і закраненыя гэнымі фільмамі справы.

**Кіно ўзгадоўвае.**

Нельга запярэчыць, што кіно ня толькі вучыць, але і ўзгадоўвае. Кожная эпоха імкнулася да таго, каб дзецям падаваць праўды і дабрадзейнасьць ня толькі даступна, але і прынадна. Чым больш трудныя да зразуменьня праўды падаваліся дзецям,тым больш цяжкае было іх успрыняцьце. Дзеля таго з даўных часоў такія праўды падавалася дзецям — ды ня толькі дзецям — у форме расказаў, былінаў. Усходнія народы паслугоўваліся ў гэткіх выпадках прыповесьцямі, дзе перш чым паказвалася нейкую праўду, маляваўся перад слухачамі фон у форме нейкага жыцьцёвага здарэньня і толькі пасьля гэтага адсланялася сутнасьць справы. Між іншым варта заўважыць, што эвангельскія прыповесьці зьяўляюцца мастацкімі пэрламі, адзінымі ў сваім родзе і красе, таму даволі лёгка запамятваюцца

Але трэба згадзіцца з тым, што ані казкі, ані ўспомненыя прыповесьці, ані тэатры ня дзейнічаюць так на маладую фантазію і душу, як кіно. Дзеля гэтага сёньня ўжо тыя праўды сьвятога Пісаньня, аб якіх столькі гаворыцца ў школе, можна бачыць на экране. З экрану яны западаюць глыбей і трывалей ў памяць і сэрца, чым паданыя хаця-б і ў прыгожых словах настаўніка. Таксама цэлыя падзеі з гісторыі Царквы жыва закранаюць чалавека, калі іх пабачыць у добрым кіне. Успомніць хоць-бы такія фільмы, як: «Пастор анжэлікус» аб дзейнасьці сьвяцейшага Айца Пія XII, або такі «Мосье Вэнсан» аб дзейнасьці сьв. Вінцэся а Паўлё, які летась здабыў першую нагароду.

(Працяг будзе).

**А. Дзедзінка.**

# Атруата ў чалавеку

(З «Прамень Эгіпту» паводля «Католішэр Дігэст»).

Маралісты кажуць, што той чалавек, які свайму выбуху гневу дае поўную волю, гэтым самым шкодзіць свайму здароўю; ягонае аблічча з часам стаецца бледным; ён занепадае, губіць сябе і перадчасна ўмірае.

Агулам заўсёды быў ведамы пагляд, што душа ўплывае на цела праз узрушэньні і пачуцьці. Невядома толькі да сёньня праз якія «пункты судакрананьня» адбываецца гэты ўплыў.

Досьледы над залозкамі ўнутранага выдзяленьня пазваляюць дагадвацца, што гэта яны ёсьць тымі пунктамі судакрананьня. Досьледы сьцьвярджаюць, што ўзрушэньні перашкаджаюць дзейнасьці залозак нутранага выдзяленьня ў нашым целе. Калі-ж парушаецца раўнавага ўнутрызалозкавых сокаў у арганізьме, тады цела распадаецца вельмі хутка.

Калі напрыклад надныркавыя залозкі выдзяляюць зашмат свайго соку — адрэналіны — тады чалавек стаецца вельмі раздражняльным, лёгка злуецца. Калі-ж чалавек сумны, дык тады, ў сваю чаргу, страваатраўленьне адбываецца кепска і пачынае балець печань. Калі-ж, наадварот, залозкі дзеюць ненармальна, тады яны выклікаюць бескантрольныя пабуджэньні, якія парушаюць нашу душэўную раўнавагу.

Не аспрэчваючы цьверджаньня, што між душою і целам ёсьць «нематэрыяльныя» ўзаемаадносіны, сёньня трэба сьцьвердзіць, што гэтыя ўзаемаадносіны маюць так-жа матэрыяльныя, адчувальныя дзейнікі. Цяпер сталася магчымым нашыя ўзрушэньні і корці быццам «матэрыялізаваць» нават тады, калі яны свой аседак маюць у душы. З далейшага чытач сам пазнае, што гэтым хочам сказаць. Коратка кажучы, тут гаворыцца аб адчувальным дзеяньні нейкае ідэі на арганізм.

З гэтага гледзішча вельмі цікавыя досьледы прафэсара Эльмэра Гэйтс'а ў псыхалягічнай лябораторыі ў Вашынгтоне.

Гэты вучоны паказаў, якое дзеяньне маюць пачуцьці і пабуджэньні на цела чалавека і якія хэмічныя зьмены выклікаюцца ў целе станам нашае душы. Ён сьцьвердзіў, што розныя станы душы ўплываюць на хэмічны склад выпараваньня і выдыханьня нашага цела. Калі дзейнічаць тымі самымі хэмічнымі рэчавінамі на прадукты выпара-

ваньня чалавека, дык адразу відаць розьніцу выпараваньняў гнеўнага чалавека і спакойнага. I сапраўды, хто не заўважыў сам на сабе, што падчас моцнага раздражэньня пот стаецца пякучым і кіславатым? Выпараваньне мае таўро таго пабуджэньня, якое яго выклікае! Успомнены вучоны ўлажыў цэлы сьпіс пачуцьцёвых узрушэньняў, якія льга распазнаць ужо дзякуючы самой толькі хэмічнай аналізе выпату цела.

Далей прафэсар Гэйтс даказаў, што кожны стан душы выклікае зьмены ў дзейнасьці залозкаў, у выніку чаго цела выдзяляе і выпароўвае розныя рэчавіны, якія вытвараюцца якраз тымі рознымі душэўнымі станамі. Ведама, што параваньне вадкага паветра пры зьменшаным ціску вытварае вельмі халодную тэмпэратуру — 271° C ніжэй нуля. Калі ўзяць шкляную трубачку, абмачыць яе ў гэткім вадкім паветры і потым дыхаць у гэтую трубачку, дык холад адразу згушчае ў кропелькі ўсе вадкія рэчавіны выдыханьня. Калі будзе дыхаць чалавек спакойны, дык у трубцы будзе зьбірацца бясколерная вадкасьць. Калі-ж падыхае ў гэткую трубку колькі хвілін чалавек, які злуецца, дык утворыцца асадак бурага колеру. У смутку і прыгнобленьні вытвараецца шэры асадак, калі-ж дыхаючага грызе сумленьне — асадак будзе ружовы і так далей.

Прадаўжаючы свае досьледы, прафэсар Гэйтс здабыў дастаткова бурага асадку, каб магчы з яго зрабіць упрыскваньне марской сьвінцы. I кожны раз пасьля гэтага ён сыцьвярджаў вялікую падражненасьць у гэтае жывёлы. Ад асобы, якая палымнела няпрымірымаю нянавісьцю, вучоны здабыў іншы матэрыял і калі яго ўпрыснуў у жылы марское сьвінкі, дык тая пасьля некалькі мінутаў сканала. Праф. Гэйтс цьвердзіць, што за адну гадзіну гневу вытвараецца толькі атруты ў целе, што ею можна ўмярцьвіць 80 асобаў і што гэтая «птомаіна» (так названа гэтую атруту) ёсьць найбольш атрутным матэрыялам з усіх тых, якія ведамы сучаснай навуцы.

Вучоны кажа: «Мае досьледы даказваюць, што прыгнобленьі настрой вытварае ў нашым целе шкодныя хэмічныя рэчавіны. I наадварот, добры настрой вытварае хэмічныя спалучэньні, якія ўзмагаюць аджыўленьне. Атрутныя зьвяры маюць прылады, якімі ўпрыскваюць атруту сваім ворагам, а людзі ўсмоктваюць самі атруту, якая вытвараецца пад уплывам страху, гневу, зайдрасьці, нянавісьці і самі сябе атручваюць. Гэтыя атрутныя рэчавіны падобныя да соку, залозак унутранага выдзяленьня (гормонаў), якія нязвычайна дзейныя нават у дробных колькасьцях. Яны нагрмаджваюцца ў арганізьме дзеля нястачы нармальнага выхаду. Кожны раз, калі мы больш або менш сьведама жадаем нейкага ліха, ці агулам чагосьці дрэннага нашаму бліжняму, наш арганізм, падобна, як гадзіна-кобра, выдзяляе атруту, якая паводля агульнага прыроднага пляну ўласьціва прызначана нашаму ворагу, аднак у сапраўднасьці мы самі ўсмоктваем гэтую атруту і становімся самі сваімі ахвярамі!» **А. Лягасэ.**

# Кангрэс „Pax Romana ў Амстэрдаме

У часе між 19-26 жніўня г.г. адбыўся 21-шы сусьветны кангрэс «Пакс Романа». Галоўнай тэмай Кангрэсу было: «Удзел інтэлігэнта ў дзеле адкупленьня». Адпаведна да гэтае галоўнае тэмы кожнага дня былі даклады ў наступным парадку: Перад абедам адзін даклад для ўсіх удзельнікаў у салі пры Індыйскім Інстытуце; па абедзе звычайна было шэсьць дакладаў адначасна, але ў розных салях. Удзельнікі тады дзяліліся на групы залежна ад таго, хто на якім дакладзе жадаў быць прысутным. Паабедныя даклады былі дыскусыйныя. Усе даклады прачытаныя на Кангрэсе былі на высокім навуковым узроўні і прасякнутыя глыбокай верай. Адзін з выдатных удзельнікаў заўважыў зусім слушна, што ён, як сьвятар і як біскуп, цешыўся, слухаючы глыбока рэлігійныя даклады на ўзроўні сучаснай веды з вуснаў багасловаў ня ў сутане, гэта значыць сьвецкіх людзей.

Даклады адбываліся на трох мовах: францускай, ангельскай і нямецкай. У дыскусыях можна было пачуць яшчэ галяндзкую, італьянскую і гішпанскую. Афіцыяльнымі мовамі Кангрэсу былі француская і ангельская. Дзеля таго, што даклады былі галоўнай часткай Кангрэсу, падаём тут хаця некалькі з іх, каб задаволіць зразумелую цікавасьць нашых чытачоў: праф. Гоэнэн (Рым): Інтэлігэнт-каталік перад сучасный культурай і ведай; праф. Лядэ Раймэкэр (Лювэн): Уплыў пазытывізму на сучасную думку; праф. I. Коэлін (Фрібург): Эволюцыянізм і паходжаньне чалавека; праф. Сільвіё Гольціё (Турін): Прыродныя багацьці і праблема пералюдненьня; праф. В. Помпэ (Утрэхт): Крызыс паняцьця адказнасьці; М. Д. Гайд (Лёндан): Камунізм і навука адкупленьня; Монс. А. Пэйран (Квэбэк): Роля Унівэрсытэту і дзела культуры і інш.

Кангрэс быў зарганізаваны галяндзкім Каталіцкім Аб'еднаньнем Студэнтаў пад высокім пратэктаратам Я. Эм. Кардынала дэ Ёнга Архібіскупа Утрэхту.

На Кангрэсе ўдзельнічала 1.300 дэлегатаў, каторыя рэпрэзэнтавалі 50 розных народаў. Беларусаў рэпрэзэнтавала дэлегацыя ад Беларускага Акадэміцкага Каталіцкага Аб'еднаньня «Рунь», якая паўстала на эміграцыі і цяпер зьяўляецца сябрам сусьветнае арганізацыі «Пакс Романа». Маладая беларуская арганізацыя «Рунь» мае на

мэце аб'яднаць беларускую каталіцкую моладзь і інтэлігэнцыю, паглыбляць рэлігійную веду, любоў да Бога і Бацькаўшчыны, дбаць пра маральную паставу і добрае імя беларуса на чужыне, дапамагаць моладзі здабываць веду і вырабляць характар. Гэтыя вялікія мэты зразумела лягчэй нам зьдзейсьніць будучы ў цесным супрапоўніцтве з арганізацыяй сусьветнага маштабу, якой ёсьць «Пакс Романа», аб чым можна было лёгка пераканацца падчас 21-га Кангрэсу ў Амстэрдаме.

Перад заканчэньнем Кангрэсу прынята рад рэзалюцыяў. Ніжэй падаём выняткі з аднае найважнейшае, якія адносяцца і да нас беларусаў:

«Сябры Міжанроднага Руху Каталіцкае Інтэлігэнцыі і Міжнароднага Руху Каталіцкіх Студэнтаў з нагоды 21-га сусьветнага Кангрэсу «Пакс Романа» зьвяртаюцца да ўсяго хрысьціянскага сьвету з просьбай дапамагчы ўцякакачом інтэлектуалістам і бяздомным адзінкам, каторыя толькі дзеля рэлігійнага, палітычнага ,або расавага прасьледу былі прымушаныя жыць жыцьцём выгнанцаў.

Яны спадзяюцца, што хрысьціянскі сьвет зразумее нядолю прасьледаваных і дзеля добрага імя цывілізацыі, за што яны цярпяць, знойдзе разьвязку гэтай трагічнай праблемы.

Прафэсары, урадаўцы, дыпляматы, мастакі, лекары, праўнікі, студэнты, прадстаўнікі прафэсыйных саюзаў бяз розьніцы народнасьці, заклікаюцца парупіцца ўдаступніць уцекачом усе тыя становішчы, якія яны мелі перш у сваёй бацькаўшчыне. Цяпер яны прывязаныя да працаў, да якіх яны зусім непадрыхтаваныя. Часта іх калегі ў тых краінах, дзе яны жывуць, не зьвяртаюць увагі на іхнюю бяду і дзеля неасьведамленьня недацэньваюць тых скарбаў, носьбітамі якіх ёсьць вагнанцы.

Каталікі ўсіх вольных краінаў верныя запаветам Хрыста заклікаюцца прыйсьці з духовай і матэрыяльнай дапамогай асабліва для тых, што студыююць на выгнаньні і ў гэтай інтэнцыі прынясуць свае малітвы і ахвяры...»

Беларуская дэлегацыя дзейна ўдзельнічаючы ў працах Кангрэсу выязджала з Амстэрдаму з моцным пераканаваньнем, што актыўнасьць злучаных каталіцкіх сілаў пад непераможным сьцягам Хрыстовае праўды ёсьць надзеяй і зарукай адраджэньня між беларусаў глыбокага рэлігійнага жыцьця на эміграцыі і на бацькаўшчыне.

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

## СЬВЯЦЕЙШЫ АЙЦЕЦ АБВЕСЬЦІЦЬ ДОГМУ АБ УНЕБАЎЗЯЦЬЦІ БАГАРОДЗІЦЫ.

Праўда веры, што Багародзіца пасьля сьмерці разам з целам была ўзятая на неба, ведамая ад вякоў як у Заходняй, так і ў Усходняй Царкве. На гэтую памятку ўстаноўлена сьвята 15-га жніўня, як сьвята Усьпеньня Багародзіцы. Асабліва ўрачыста яно сьвяткуецца на Усходзе так між каталікамі ўсходняга абраду, як і праваслаўнымі. Цяпер гэтую праўду веры сьвяцейцы Айцец папа Пій XII мае афіцыяльна абвесьціць дня 1-га лістапада, як догму веры. З гэтае нагоды адбудуцца ў Рыме вялікія рэлігійныя ўрачыстасьці.

## НОВАЯ ЭНЦЫКЛІКА.

Сёлета 12-га жніўня Сьвяцейшы Айцец Пій XII выдаў энцыкліку «Humani generis» (Гумані гэнэріс — так называецца яна ад тых слоў, якімі пачынаецца) аб некаторых памылковых апініях, якія пагражаюць асновам каталіцкае веры. У гэтай энцыкліцы Сьвяцейшы Айцец пералічае сучасныя пуцяводныя ідэі ў навуцы і ў Царкве і зьвяртае ўвагу, што між імі ёсьць такія, якія маюць навуковую аснову, калі яны адносяцца да Сьвятога Пісаньня ці традыцыі, дык павінны прыймацца з вялікай разважнасьцю, але тыя з гэтых ідэяў, якія гэткае асновы ня маюць і супрацьўляюцца аб'яўленым праўдам веры, не павінны прыймацца. Гэтая энцыкліка ёсьць вельмі важным дакумантам для ўсіх тых, якія маюць абавязак дбаць аб чысьціні веры.

## АРЫШТЫ БІСКУПАЎ.

Чэхаславацкі камуністычны ўрад нядаўна арыштаваў Я. Экс. Бузалка Міх. вікарнага біскупа Тірнавы. Гэта ўжо трэці каталіцкі біскуп арыштаваны сучасным чэхаславацкім урадам.

## ВЫКІДАЮЦЬ СЬВЯТАРОЎ.

Савецкі ўрад нядаўна паведаміў францускую амбасаду ў Маскве, што не прадоўжыць дазволу на пражываньне ў Савецкім Саюзе францускаму каталіцкаму сьвятару а. Івану Томасу, дзеля гэтага ён мусіць выехаць з Савецкага Саюзу.

## УСХОДНЯНЯМЕЦКІЯ БІСКУПЫ СУПРАЦЬ ШТОКГОЛЬМСКАГА ЗАКЛІКУ.

Камуністычныя арганізацыі на ўсім сьвеце рабілі і яшчэ робяць шмат крыку навокал так званага Штокгольмскага закліку аб забароне атамнага аружжа і кампаніі міру, хоць адначасна самі-ж усюды рыхтуюцца да вайны. Для большага розгаласу для гэтага Заклiку камуністы стараюцца ўцягнуць да гэтае акцыі так-жа і духоўныя ўлады. Самазразумела, што становішча каталіцкага духавенства за зялезнаю заслонаю адносна камуністычнага Заклiку вельмі абцяжанае і так цяжкімі абставінамі, аднак ня гледзячы на гэта некаторыя біскупы катэгарычна адмовіліся падпісаць Штокгольмскі заклік. Усходнянямецкія біскупы ў гэтай справе выдалі супольны пастырскі ліст, у якім заяўляюць, што ня могуць прылучыцца да Штокгольскага заклiку.

## ПАЛАЖЭНЬНЕ КАТАЛІЦКАЕ ЦАРКВЫ Ў МАДЗЯРШЧЫНЕ.

Пасьля розных этапаў у прасьледаваньні Каталіцкае Царквы ў Мадзяршчыне камуністычны ўрад апошнім часам, відаць пад нечую дыктоўку, зноў зьмяніў сваю тактыку і падпісаў нібы акт замірэньня з Царквою. Тымчасам гэты акт падпісаў толькі прадстаўнік ад біскупаў Я. Экс. Язэп Грос. Паводля гэтага «акту замірэньня» біскупы забавязваюцца прызнаць сучасны ўрад, прымаць адпаведныя мерапрыемствы супраць тых духоўных, якія-б дзейнічалі супраць устаноўленага парадку, успамагаць акцыю для захаваньня міру і пад. А ўрад з свайго боку запэўнівае свабоду культу, годзіцца на адкрыцьцё 8 каталіцкіх школаў пад кіраўніцтвам манахаў і манашкаў, абяцае даваць запамогу для Царквы на працягу 18 гадоў. Выклікана гэтае пагадненьне трагічным палажэньнем Каталіцкае Царквы ў Мадзяршчыне, якое пагоршвалася з дня на дзень пасьля засуджаньня Я. Эм. Кардынала Міндсэнті і нацыяналізацыі каталіцкага школьніцтва, а ўканцы выгнаньня манашых чынаў. Цяпер ідуць далейшыя перагаворы аб тэхнічным выкананьні падпісанага дагавору. Тымчасам да гэтага акту адносяцца з засьцярогаю, бо ў далейшым надходзяць весткі аб выкіданьні манахаў і манашкаў з манастыроў. Пакуль шо не чапаюць толькі чатырох манашых чынаў, паміж якіх маюць быць упаўнаважненыя настаўнікі для ўспомненых 8 школаў.

## БІСКУПСКІЯ СЬВЯЧАНЬНІ Ў ЮГАСЛАВІІ.

Ад калі ў Югаславіі ўлада знайшлася ў руках камуністаў, сёлета першы раз адбыліся сьвячаньні каталіцкага біскупа на адзін з 9 пустуючых біскупскіх пасадаў. Гэтая ўрачыстасьць адбылася бяз вялікага разгалосу, каб не перашкодзіць абсады іншых пустуючых пасадаў.

## АРЫШТОВАНА 13.000 СЬВЯТАРОЎ

Як паведамляе Ватыканскае радыё ў Усх. Эўропе за зялезнаю заслонаю ад 1945 г. да сёньня камуністычныя ўлады арыштавалі трынаццаць тысяч каталіцкіх сьвятароў.

## АСУДЖАНЬНЕ КАМУНІСТЫЧНЫХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ МОЛАДЗІ.

Кангрэгацыя ўраду ў Ватыкане выдала 27-7 дэкрэт, якім асуджае тыя арганізацыі моладзі, каторыя маюць на мэце ўзгадоўваць моладзь у матэрыялістычным дусе і бязбожнасьці. Сябры гэткіх арганізацыяў падлягаюць адлучэньню ад Царквы. Аб гэтым павінны ведаць і памятаць бацькі, і ўсе тыя, хто нясе адказнасьць за узгадаваньне моладзі.

## «ЦАРКВА І ВАЙНА»

Галоўны рэдактар Ватыканскага штодзённіка «Осэрваторэ Романо» граф Дэльля Торэ ў мінулым месяцы апублікаваў артыкул, у якім між іншым гаворыцца:

«Ніякі закід, ніякая абраза Царквы ня ёсьць так беспадстаўная, як цьверджаньне, што быццам Царква падтрымоўвае вайну. Царква ня можа падтрымоўваць вайну, нават і тую, якая быццам мела-б зьнішчыць камунізм проста дзеля таго, што немагчыма, каб нейкую ідэю зьнішчыць са сьвету вонкавымі насільнымі дзейнікамі».

«Кожны, хто рахуе на вайну з Расеяю, або на магчымы ўпадак саветаў, або на якісьці падзел Расеі, каб гэткім чынам зьнішчыць камунізм, абманвае сябе. Камунізм ня ёсьць толькі палітычным зьявішчам, ці шахаваю фігуркаю якогасьці міжнароднага таварыства. Камунізм ёсьць перадусім маральным і гаспадарчым матывам. Камунізм узмацняецца і пашыраецца сацыяльнаю несправядлівасьцю і ўсемі заганамі выкліканымі трыццацігодняю вайною. Вайна, або разграмленьне Расеі могуць змусіць камунізм спыніцца ў ягоным разьвіцьці, але ніякім чынам ня змусяць яго паддацца».

Сапраўдным дзейнікам, які можа зьнішчыць камунізм ёсьць: ажыцьцяўленьне хрысьціянскіх прынцыпаў у штодзенным практычным жыцьці.

## ЦУД ПЕРАД ГРАМАДОЮ СЛУХАЧОЎ.

Лёнданская газэта «Дэйлі Мэйл» з 30-V паведамляе аб цікавым здарэньні ў Італіі.

Камуністычны агітатар Вічэндо Мосо, прамаўляючы перад царквою ў Віетро суль Марэ, падняў рукі і выгукваў супрацьрэлігійныя клічы. Але раптам ён зьмяніў голас і пачаў крычаць ад болю ды схапіўся за руку — яна была зламаная. Да яго ніхто не дакранаўся, ані ня кідаў на яго нічым.

Наступнага дня гэты бязбожнік выспавядаўся і запрычашчаўся. Тысячы цікавых прыходзілі, каб паглядзець на яго, але ён з нікім ня гутарыць.

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

## БАЦЬКАЎШЧЫНА.

### Перамяшчэньні ерархаў.

Сапраўды годная падзіву доля Горадзенскага праваслаўнага япіскапскага пасаду. Сёлета 17-га сакавіка на гэты пасад назначаны яп. Сяргей (Ларін). Гэткім чынам за час ад 1946 г. там ужо назначаецца чацьвёрты з чаргі ерарх. Сам яп. Сяргей (Ларін) да 1943 г. быў абнаўленцам і перайшоўшы у сучасную афіцыяльную савецкую «праваслаўную» Царкву быў нанава хіратанізаваны ў 1943 г. на яп. Одесскага і за гэты час быў два разы перапошаны.

## АНГЛІЯ.

### Беларуская Каталіцкая Парахвія ў Брэйдфорд.

Сёлета ў жнівені была адчынена ў Брэйдфорд беларуская парахвія для каталікоў лацінскага абраду. Кіруе ёю а. Р. Мутуліс з паходжаньня латыш, які знае добра беларускую мову і сам улажыў шмат працы і захадаў у наладжаньне рэлігійнага жыцьця сярод беларусаў каталікоў у Брэйдфорд і акрузе. Пры пахвіі створаны Парахвіяльны Камітэт, каторы дапамагае а. Мутулісу весьці рэлігійную працу, і дагэтуль быў вельмі актыўны.

Гэтым шляхам падаецца да ведама ўсіх беларусаў каталікоў у акрузе Йорк, што багаслужэньні для беларусаў каталікаў адбываюцца кожнае другое нядзелі месяца ў капліцы Convent Passion Sisters, Melbourn Pe. 10. of. Little Horton. Bradford. Ува ўсіх справах зьвяртацца на наступны адрас: Rev. R. Mutulis, 20, Facliffe Road, Bradford, Yorks.

Прыгожы быў той дзень, калі беларусы атрымаўшы ад ангельскіх духоўных уладаў афіцыяльны дазвол з роднай песьняй на вуснах у палкай мальбе да Бога, малілі Яго, каб багаславіў іхны труд на чужыне, каб даў сілаў перанесьці цяжкое эміграцыйнае жыцьцё і каб дапамог здабыць нам вольную бацькаўшчыну. Шкада толькі, што многія з беларусаў не дацэньваюць вагі рэлігійнага жыцьця і ня цікавяцца ім. Прыклад нашых братоў з Брэйдфорд заахвочвае усіх беларусаў каталікоў арганізавацца. Няма шмат беларускіх сьвятароў на эміграцыі, але яны знойдуцца, калі будуць вернікі, жадаючыя хваліць Бога ў роднай мове.

**а. Ч. С.**

## АЎСТРАЛІЯ.

### УВАГА, ЧЫТАЧЫ!

У зьвязку з наладжаньнем распаўсюджаньня беларускае прэсы ў Аўстраліі зьвяртаецца ўвагу ўсім чытачом «Божым шляхам», што пачынаючы ад гэтага нумару так паасобныя чытачы, як і беларускія арганізацыі ў Аўстраліі будуць атрымоўваць наш часапіс ад Д. Яцкевіча і адначасна просіцца высылаць аплату за часапіс і ахвяры на Фонд Добрае Кніжкі на ягоны адрас:

Mr. Jackievic, Donat, 60, Fisher Str., East BRISBANE, Q-ld.

## БЭЛЬГІЯ.

### З жыцьця СББ

Унядзелю 27-8 г.г. адбыліся сходкі Саюзу Беларусаў у Бэльгіі ў адзьдзелах: Гарш, Гаўтгален і Вінтэргляс. На кожнай сходцы быў прадстаўнік галоўнае управы СББ. Былі праведзены гутаркі на міжнародныя і арганізацыйныя тэмы.

### Другое паседжаньне ўправы ЦБАА.

Сёлета дня 24-га жніевеня ў памешканьні Беларускага Студэнцкага Дому ў Лювэне адбылося другое паседжаньне ўправы Цэнтральнага Беларускага Акадэмічнага А'еднаньня з такім парадкам дня: 1. Інфармацыі аб дасюлешняй працы ЦБАА і падсобных арганізацыяў; 2. Інфармацыі аб працы Студэнцкага Стыпэндыяльнага Фонду; 3. Справа новых кандыдатаў на студыі; 4. Пытаньне наступнага чарговага Зьезду ЦБАА; 5. Пытаньне прэсы; 6. Супрацоўніцтва між сябрамі ўправы ЦБАА і 7. Вольныя прапановы.

У выніку падсумаваньня асягненьняў і недасягненьняў прынята рад адпаведных пастановаў, якія маюць на мэце застывізаваць у будучыні працу ЦБАА.

## З. Ш. А.

### Беларускі канцэрт.

Беларускі ансамбль пад кіраўніцтвам кампазытара Куліковіча сёлета 15-га ліпеня выступаў першы раз у Нью Ёрку з беларускім канцэртам у салі пры украінскай праваслаўнай царкве. На праграму канцэрту злажыліся беларускія народныя песьні ў выкананьні жаночага октэту, а такжа солёвыя і балетныя нумары. Узровень выкананьня праграмы і мастацкае афармленьне зрабілі на прысутных прыемнае ўражэньне.

## КАНАДА.

### Інтэрв'ю прэз. М. Абрамчыка.

Падчас свае візыты ў Канадзе прэз. БНР інж. М. Абрамчык адведаў некаторыя беларускія скупішчы і гэтым выклікаў ня толькі агульнае ажыўленьне між беларускае эміграцыі, але і іншых народаў і дзяржаўных канадзкіх кругоў. У Торонто ён даў інтэрв'ю мяйсцовым журналістам аб вызвольным змаганьні на Беларусі пад кіраўніцтвам гэн. Вітушкі і аб урадзе БНР. Гэтае інтэрв'ю было паўторана ня толькі на старонках канадзкае прэсы, але нават і ў некаторых эўрапейскіх газэтах.

### На арганізацыйнай ніве.

У Торонто, дзе месьціцца галоўная ўправа Згуртаваньня Беларусаў у Канадзе дня 29-га ліпеня заложана адзьдзел ЗБК для Торонто.

Апошнім часам ЗБК праводзіць узмоцненую акцыю павялічэньня ліку сяброў; дзеля гэтага пароблены адпаведныя мерапрыемствы.

## НЯМЕЧЧЫНА.

### Папраўка.

У папярэднім нумары нашага часапісу ў паведамленьні з Нямеччыны «Рэзалюцыя беларусаў у лягэры Зээдорф» трапіліся прыкрыя памылкі, якія на гэтым мейсцы папраўляем: Надрукавана:

«Беларуская група ў лягэры Зээдорф на сваім агульным паседжаньні» мае быць: Беларуская група ў лягэры Зээдорф на сваім агульным сходзе.

Уканцы гэтага абзацу надрукавана: «беларуская эміграцыя ў патрэбе гатова з аружжам у руках выступіць да змаганьня супраць вызваленьня народаў...» Мае быць: Беларуская эміграцыя ў патрэбе гатова з аружжам у руках выступіць да змаганьня за вызваленьне народаў...

### 425-лецьце друкарства на Беларусі.

У 1525 доктар Францішак Скарына з Полацку арганізаваў у Вільні першую друкарню на Беларусі і надрукаваў у ёй першую кніжку — «Апостал». Таму сёлета прыпадае 425-лецьце друкарства на нашай зямлі.

Беларускі Камітэт ДП лягеру Зээдорф азначыў гэтую важную культурную гадавіну адмысловым вечарам, на праграму якога злажыліся: рэфэрат аб пачатках друкарства на Беларусі і солёвае выступленьне маладога барытона Ю. Сеньkоўскага.

Рэфэрат, які адчытаў др. В. Тумаш, быў ілюстраваны адчытаньнем адпаведных да рэфэрату вершаў М. Багдановіча і Н. Арсеньневай і адрыўкам з аповесьці М. Садковіча аб Скарыне.

Паважна зладжаны вечар хаця і скромна, але годна ўшанаваў памяць выдатнага сына нашй зямлі — Фрнцішка Скарыны — і належна адзначыў 425-лецьце друкарства на Беларусі.

### Адведзіны лягэраў.

Вярнуўшыся з свайго падарожжа ў Бэльгію і Англію, яп. Васілій адведаў ДП лягэры Шляйсгайм і Бад-Райхэнгалі, урачыста вітаны беларускімі і украінскімі праваслаўнымі вернікамі і духавенствам, а так-жа і адміністрацыяй лягэраў.

### Перакладная праца над Бібліяй.

Паводля інфармацыяў Камітэту для Перакладу Бібліі на Беларускую мову; перакладная праца над кнігамі Старога Запавету дала ўжо немалыя вынікі. Ужо пераложаны кнігі: Руты, Эстэры, Псальмы, Прыказкі Салямона, Эклезіясты, Песьні песьняў, Прарока Данілы і малых пракракаў. Над некалькімі далейшымі кнігамі пераклад вядзецца. Для апошняй рэдакцыі тэксту перакладу мае быць паклікана адумысловая рэдакцыйная камісія.

## ФРАНЦЫЯ.

### Усеагульная сходка.

У салі Хрысьціянскага Сындыкату ў Парыжу дня 23-га ліпеня адбылася надзвычайная агульная сходка прадстаўнікоў ад усіх беларускіх арганізацыяў у Францыі. На парадку дня было толькі адно пытаньне: справа распаўсюджваньня «Кніжкі Беларускага Эмігранта». Усе прадстаўнікі аднагодна выказаліся за якнайшырэйшым распаўсюджаньнем гэтае Кніжкі і за падтрыманьнем гэтае акцыі. Пасьля сходкі адбылася раздача прысутным Кніжак.

### Магчымасьці эміграцыі ў ЗША.

У зьвязку з новым эміграцыйным законам у ЗША ёсьць магчымасьць выэміграваць туды такжа і некаторым беларусам з Францыі, якія знаходзяцца на правох палітычных эмігрантаў і не аселі у Францыі на стала. Аплату за дарогу яны мусяць аплачваць самі і самі мусяць знайсьці некага ў ЗША, хто ім зможа прыслаць ашуранс. Усе зацікаўленыя мусяць выпаўніць адпаведныя анкеты і пераслаць у канзулят ЗША ў Парыжу.

### ПОШУКІ:

180. **Пратасаву** Веру і **Пратасаву** Надзю з в. Грабе, акр. Бабруйск і заёмых: **Короля** Івана і **Лісоўскага** Уладзімера — шукае Роговіч Філіп. Пісаць на адрас: Mr. Rohovyc Fillipp, Felix, via Sudbury, Ont. Canada.

183. Сваіх братоў і сясьцёр: Валерыяна, Станіслава, Браніслава, Зіну і Дусю — **Сакалоўскіх** шукае Аляксандар Сакалоўскі з м. Грэск. Пісаць на адрас: Mr. Patrick g. Twomey, 53, Dominick St. Cork. Irland. (Eire).

184. Свайго брата **Смірнова** Кірыла з Сураскага р-ну шукае Астроўская Феня. Пісаць на адрас: M-lle Astrouskaja F. 72, rue de Chasseroux, Battice p-r Liège, Belgique.

185. **Дэмідэнка** Васілія нар. 1921 г. шукае брат Дэмідэнка Іван і бацька Нікіта. Просіцца ўсіх знаёмых, якія могуць даць пра яго нейкія весткі, адгукнуцца на адрас: Demidenko Ivan, Patosi 594, Villa Jordin, 4 de Junio, Buenos Aires, Argentina.

### ЗЬМЕСТ:


а. Лсў — Неспакойны час 1
а. Л. Гарошка — Навука і рэлігія 2
В. Друя — Ты і яна (працяг (13-ы) 6
а. Л. Гарошка — Беларуская форма крыжа 7
А. Дзедзінка — Кіно 9
А. Лягасэ — Атрута ў чалавеку 11
Кангрэс «Pax Romana» ў Амстэрдаме 12
На рэлігійнай ніве 13
Беларуская хроніка 14



Gérant : D. Kucopej. Directeur : Abbé L. Horosco.

Impr de Navarre 11, rue des Cordelières, Paris.